Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць з верасня 1995 года

# Газета Уладзіміра Кудзінава

СЕРАДА
№ 71 (100)
11 верасня 1996 года

Цана па падпісцы – 444 руб.
Цана ў розніцу – 700 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

Інфармацыйны выпуск падрыхтавалі: В. ГАПЕЕЎ, М. РЫМАЧ, Л. ЦАЛУЙКА.

## Век жыві – век вучыся

Што гэта менавіта так, можа пацвердзіць і прайшоўшы на базе калгасаў імя Калініна і імя Мічурына ды саўгаса „Перамога" семінар па пытаннях правядзення асенняй сяўбы. Яго ўдзельнікі – кіраўнікі, спецыялісты агранамічнай і інжынернай службаў гаспадарак раёна, адказныя работнікі сельгастэхнікі і сельгасхіміі – хоць і з'елі, як кажуць, зубы на правядзенні палявых работ, тым не менш з цікавасцю і, трэба думаць, з карысцю для сябе назіралі працэс апрацоўкі глебы пад сяўбу ў саўгасе „Перамога" і правядзенне поўнага цыклу, пачынаючы ад ворыва, унясення ўгнаенняў і канчаючы сяўбой з захаваннем тэхналагічнай каляіны – ў калгасах імя Калініна і імя Мічурына. У актавай зале Амяльнянскага Дома культуры, былі падведзены вынікі семінара. Перад прысутнымі з аналізам убачанага і рэкамендацыямі па правядзенню сяўбы азімых культур па новай, інтэнсіўнай тэхналогіі выступілі начальнік і галоўны аграном райсельгасхарчу І. М. Чырко і Н. І. Грынь, старшыня райвыканкама П. Г. Жышко.

### У КІЁСКАХ

„Саюздруку" ў райцэнтры прадаецца „Газета Уладзіміра Кудзінава". Цана яе застаецца нязменнай – 700 руб. Нагадваем, што разам з газетай вы набываеце і купон для бясплатнай аб'явы ў нашай газеце.

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

## Доўгажыхар з Рудні



*„Старасць – не ў радасць", – кажуць людзі.*

*– Яно то так, але ад старасці не збегчы нікому. Усе жывое старэе: і дрэвы, і звяр'ё рознае, і кветкі рана ці позна адцвітаюць. Так вось і да чалавека старасць прыходзіць, – гаворыць, папраўіўшы на галаве кепку, 95-цігадовы Іван Лявонцьевіч Шляжка. А пабачылі мы яго на ягонай ніўцы, дзе чалавек паволькымі рухамі працаваў з граблямі, падбіраючы ў адно месца ўжо добра падсохлую траву.*

*Не, не скажаш пра Івана Лявонцьевіча, які жыве ў вёсцы Рудня, што на Целяханшчыне, што ён у свае гады адчувае сябе даволі бадзёра і гатовы з маладзейшымі пацягацца. Не, узрост бярэ сваё, калі не з кожным днём, дык з кожным месяцам і годам напамінаючы пра сябе. Але трымаецца паляшук, яшчэ не-не ды за такую-сякую работу бярэцца. Справа гэта для яго прывычная: усё жыццё ў нялёгкай працы прайшло.*

*Мы шчыра жадаем Івану Лявонцьевічу Шляжку, равесніку ідучага да свайго фінішу XX стагоддзя, дажыць да стагоддзя будучага, XXI. А там ужо няхай будзе так, як сам Бог распарадзіцца. Усе мы пад ім жывем і ходзім.*

*НА ЗДЫМКУ: 95-цігадовы жыхар в. Рудня І. Л. Шляжка.*

**Фота П. ЛУЧЫЦА.**

## А ў калгасе "Косава" збіраюць яблыкі...

Ля вёскі Заполле – самы вялікі ў раёне сад. Не проста вялікі – вялізны. Каля 700 гектараў зямлі займаюць пладовыя дрэвы ў калгасе „Косава". Натуральна, што сабраць ураджай з такой плошчы – а ён у гэтым годзе нядрэнны – калгаснікам не пад сілу. Прыходзяць на дапамогу пасля заняткаў вучні Запалянскай школы, шчыруюць мясцовыя. А яшчэ 50 чалавек беспрацоўных штодзённа па дамове з Івацэвіцкім цэнтрам занятасці адпраўляюцца ў сад на збор яблыкаў.

Каля дзесяці тон чырвонабокіх пладоў штодня здымаецца з дрэў. Што адпраўляецца на завод, што закладваецца ў сваё сховішча. І заробкі тут нядрэнныя, і паласавацца спелымі яблыкамі можна, і з сабой кошык прыхапіць. Толькі працуй шчыра.

## Вось і ўся доля...

Сэнс чэка „Маёмасць" у тым, што дзяржава ацаніла ўсю маёмасць Беларусі, палічыла ўсіх людзей, якія маюць права на яе частку, і раздзяліла – кожнаму па кавалачку, улічваючы яго асабісты ўклад у дзяржаўныя здабыткі. Справядліва? Як быццам так...

Кажам „як быццам",– бо пасля невялікіх падлікаў робіцца нешта зусім нявесела. Калі браць у сярэднім, то на аднаго грамадзяніна Беларусі прыйдзецца недзе па 100–150 чэкаў. Казалі, што вартасць аднаго чэка складае 30 тысяч рублёў. Казалі...

Сёння ў Івацэвіцкім філіяле „Беларусбанка" адзін інвестыцыйны фонд купляе чэкі „Маёмасць" у простых грамадзян па цане... 1200 рублёў за адзін чэк. Просты падлік – уся дзяржаўная маёмасць, на якую мы маем права, ацэньваецца ў 100–150 тысяч мінус яшчэ 15 тысяч дзяржпошліны. Ледзь-ледзь хапае на дзве рыдлёўкі, і тыя без дзяржання. Кажуць, што выдача чэкаў „Маёмасць" робіцца дзеля стварэння аднолькавых умоў для ўсіх грамадзян. Выдатна атрымліваецца: кожнаму па адной-дзве рыдлёўцы – і ўся прыватызацыя. А некаму яшчэ і шуфель.

## З лёгкай парай

можна ўжо казаць быцэнцам, якія ў мінулую пятніцу і суботу паспяшаліся ў сваю вясковую лазню. І паверце, яны з задавальненнем вам тут жа адкажуць: „Дзякуй, добрая „банька" цяпер у нас".

А маюць рацыю так казаць жыхары Быцені таму, што, нарэшце, пасля даволі значнага перапынку запрацавала іхняя лазня. Не пазнаць яе цяпер, пасля капітальнага рамонту, і знутры, і тым больш звонку. Перароблены печы, зманціравана новае абсталяванне, мыйныя залы з густам аздоблены.

Карэнным чынам змяніўся вонкавы выгляд лазні: прыгожа пафарбаваны, нават агароджа вакол радуе вока сваімі колерамі, утульна стала на тэрыторыі.

Што ж, добры падарунак зрабілі камунгасаўцы быцэнцам. А што апошнія любяць у ахвоту папарыцца і венічкам бярозавым сябе пасцябаць – гэта ўжо, як казаў адзін вядомы літаратурны герой, факт. Яшчэ раз – з лёгкай парай, шаноўныя!

## Гараць тарфянікі

А паспрыялі гэтаму гарачыя дні ў канцы жніўня і напачатку верасня. І не толькі. Больш, канечне, у гэтым вінаватыя людзі, якія нядбайна абыходзіліся ці то з запалкамі, ці то з непатушанымі цыгарэтамі, ці нават з тэхнікай, не абсталяванай іскрагасільнікамі.

Наш карэспандэнт быў сведкай, як спяшаліся людзі на тушэнне ачагоў агню на тарфяных масівах у калгасе „Зара". Тут і давялося пачуць: „У нас яшчэ нічога, дзе-нідзе толькі мясціны дымяць, а вось у суседзяў у Мілейках – больш гарыць".

Што ж, можа і так, але найбольш небяспечнае месца сёння – урочышча „Заялоўе", што за Няхачавам. Не даюць спакою і тарфяныя валы ва ўрочышчы „Курылец", што на тэрыторыі саўгаса „Перамога". Менавіта ў двух названых урочышчах сканцэнтраваны сёння намаганні людзей, каб спыніць гарэнне торфу. Некалькі дзён запар мы спрабавалі звязацца з начальнікам атрада ваенізаванай пажарнай службы маёрам М. Н. Кавальчуком і ўсялякі раз чулі ў адказ тлумачэнні яго сакратаркі: „Міхаіл Несцеравіч знаходзіцца на тарфяніках, якія гараць".

Горача, канечне, ад тых пажараў усім. Агульнавядома, як цяжка іх тушыць на тарфяніках. Але, здаецца, пайшлі дажджы, пахаладала, мо, дасць Бог, і ўціхамірыцца ненажэрны агонь.

## Выродка – за краты

У раённым судзе закончаны разгляд справы 21-гадовага гвалтаўніка з вёскі Дабромысель Аляксея Варановіча. Ён прыгавораны да шасці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем тэрміну пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Сваё гнюснае злачынства ён учыніў у роднай вёсцы ў канцы студзеня г. г. Усё, натуральна, пачыналася з выпіўкі. Была яна ў бацькоўскай хаце і ўдзел у ёй прымалі не толькі маці і айчым, але і дзядуля з бабуляй, родзіч і сябар падсуднага. І далей падзеі развіваліся ў заканамернай паслядоўнасці: калі Аляксей з сябрам пайшлі, айчым выгнаў маці з хаты на 25-цірадусны мароз. У прамежку часу ад 22-х да 23-х гадзін Аляксей „наведаў" 86-цігадовую старэнькую суседку і згвалтаваў яе натуральным і скажоным чынам. Рабіў гэта і на ложку, да якога старая, інвалід 1 групы, была ўжо прыкавана некалькі гадоў, і скідаў яе на падлогу.

Раніцай, калі дачка пацярпеўшай з жахам знайшла маці на падлозе сярод параскіданых стулаў, гвалтаўніка пацягнула на месца злачынства. Ён прыходзіў і ў хату старой, і хадзіў за яе дачкой на пошту, адкуль тая званіла ў міліцыю і ў хуткую дапамогу. Юрыстам такія паводзіны асабліва небяспечных злачынцаў вядомыя: цягне іх на месца сваіх „дзеянняў".

Віна А. Варановіча была пацверджана данымі судова-медыцынскай экспертызы.

## Суд палепшыў свае ўмовы. Людзі... незадаволены

Як мы паведамлялі ўжо, раённы суд цяпер працуе па новым адрасе (г. Івацэвічы, вул. Лясная, 8а). На рамонт памяшканняў, дзе размясцілася судовая ўлада, зрасходавана 238 мільёнаў рублёў. Зрасходаваны яны, адзначым, з толкам: ёсць цяпер для работнікаў суда добрыя ўмовы для працы: утульныя кабінеты, прасторная судовая зала, дзе праводзяцца пасяджэнні. Нават металічная клетка для небяспечных злачынцаў у зале ўстаноўлена.

Але... незадаволены месцазнаходжаннем суда ні яго наведвальнікі – жыхары раёна, ні самі юрысты. Вельмі далёка сюды (на паўднёвую ўскраіну Івацэвічаў) дабірацца людзям, а аўтобусы гарадскія, як вядома, у нас не ходзяць. Да таго ж, юрыдычная кансультацыя, дзе працуюць адвакаты, знаходзіцца на другім канцы райцэнтра. Атрымліваецца так: ужо з першых крокаў знаёмства з судом чалавек адчувае: судзіцца – з непрыемнасцямі ды бядою парадніцца.

Адчуваючы незадаволенасць сваіх наведвальнікаў, судовыя работнікі міжволі ўспамінаюць свае нядаўнія прапановы на размяшчэнне суда ў цэнтры горада, балазе, памяшканняў для гэтага хапае. Аднак выканаўчая ўлада пакінула гэтыя прапановы без увагі...

І яшчэ адзін нюанс: суд арэндуе новае памяшканне ў ДБПМК-34. Плата за арэнду абыдзецца яму ў добрую „капейчыну".

● НА СЕЛЬСКІХ СКРЫЖАВАННЯХ

# ЛАДЗЯЦЦА СПРАВЫ НА ФЕРМЕ

Жывёлагадоўчая ферма ў Чамялах – невялікая. 125 галоў дойнага статка ды 150 цялят, якія знаходзяцца на дарошчванні, – вось і ўсё тутэйшае пагалоўе. Але і яно патрабуе ўвагі да сябе, каб былі нейкія станоўчыя вынікі ды каб не была марнай праца людзей.

Двойчы давялося сустракацца нашаму карэспандэнту М. РЫМАЧУ з загадчыцай фермы Ірынай Міхайлаўнай ЦІУНЧЫК, і двойчы жанчына падкрэслівала, што кіруемы ёю калектыў на добрым рахунку ў калгасе „Іскра". З гэтага і пачалася чарговая размова паміж імі.

**– Ірына Міхайлаўна, чым, на Ваш погляд, заслугоўваеце Вы добрае слова пра сябе?**

– Я разумею пытанне так: чым заслужыў добрыя водгукі пра сябе калектыў фермы? Зразумела, стараннай, сумленнай працай. А яшчэ, імкненнем рабіць усё так, каб на ферме і вакол яе заўсёды існаваў належны парадак. Менавіта за вынікі працы і добраўпарадкаванасць фермы добра выказаліся пра нас яшчэ зімою ўдзельнікі праводзімага на базе нашага калгаса раённага семінара. А вось нядаўна падводзіліся вынікі работы калгасных жывёлаводаў – і зноў мы ставіліся ў прыклад.

**– Калі ласка, канкрэтызуйце, за што ставіліся, што на ферме палічылі як дадатнае, заслугоўваючае пахвалы?**

– Я ўжо неяк казала, што ферма наша не такая ўжо і вялікая. Тым не менш, клопатаў на ёй таксама хапае. Асабліва з цялятамі, якія ў нас знаходзяцца на дарошчванні. Няма таго месяца, каб мы не пастаўлялі на іншыя фермы ці то цялушак для папаўнення дойнага статка, ці бычкоў на вырошчванне. Прытым, не такімі ўжо і маленькімі, як правіла, вагою не менш 200–250 кілаграмаў.

Менавіта за іх больш за ўсё і ставяць нас у прыклад. Мне ж, карыстаючыся выпадкам, хочацца сказаць добрае слова пра двух жанчын – Алену Міхайлаўну Петручэню і Марыю Іванаўну Петручэню. Першая ўжо пенсіянерка, другая – напярэдадні выхаду на пенсію. Іншы раз сама здзіўляюся той адданасці, з якой абедзьве жанчыны працуюць са сваімі падапечнымі. Паўтары сотні цялятак у іх, прычым, не толькі калгасныя, але і прынятыя па кантрактацыі ад насельніцтва, і да кожнага з іх аднолькава ўважлівыя, а калі ўзнікае такая патрэба, дык гэткія дыферэнцыраваныя, індывідуальныя адносіны. Адсюль і прывагі добрыя: нават зімою цяляты прыбаўляюць у вазе не менш 400–450-ці грамаў у суткі, а цяпер паўкілаграмовае і большае прыбаўленне – з'ява наогул паўсядзённая і стабільная.

Неаднойчы на розных калгасных нарадах з вуснаў нашага старшыні гучала такое пытанне: „Чаму на чамялоўскай ферме і цяляты добра ў вазе прыбаўляюць, і цялятніцы па мільёну і больш у месяц зарабляюць, а на іншых фермах пры тых жа кармах ні прывагаў няма, ні заробкаў належных?"

**– Іншымі словам, Ірына Міхайлаўна, з цялятамі ў вас, як кажуць, усё ў ажуры. Вы, гляджу, самых маленькіх з іх нават загартоўваеце, утрымліваючы ў спецыяльных клетках на вуліцы. Ці мо гэта з нейкай іншай мэтай робіцца?**

– Сапраўды, маленькіх цялятак мы ўжо з ранняй вясны пераводзім на вулічнае ўтрыманне ў клетках. На свежым паветры яны вырастаюць здаравейшымі, да ўсяго, змяншаецца небяспека „перахапіць" якую хваробу на ферме. Думаю, вы звярнулі ўвагу на чысціню ў клетках. Гэта вось у спалучэнні з правільным кармленнем і дазваляе нам атрымліваць добрае патомства. Дарэчы, дзякуючы такому ўтрыманню, мы, па сутнасці, не маем паморку. Хіба гэта не паказчык у рабоце?

**– Паказчык, без усялякага сумневу. Асабліва сёння, калі ў многіх гаспадарках дойны статак меншае на вачах з-за розных там лейкозаў ды туберкулёзаў. А ў вас у гэтым плане што прагледжваецца?**

– На жаль, і ў нас хварэюць каровы на такія захворванні. Не скажу, што шмат выпадкаў, але яны ёсць. А вось тое, што на ферме ўтрымліваецца, як я ўжо казала, 125 кароў пры наяўнасці месц на 230 галоў дойнага статка, гэта вынік не столькі захворванняў, колькі той нездаровай тэндэнцыі па скарачэнню пагалоўя, якая назіралася яшчэ 3–4 гады назад і ад якой цяпер паступова адыходзім.



*НА ЗДЫМКУ: загадчыца чамялоўскай жывёлагадоўчай фермы калгаса „Іскра" І. М. Ціунчык.*
***Фота Я. МЕРСІЯНАВА.***

**– У такім разе, раскажыце больш падрабязна пра справы на кароўніку. Што вас тут радуе, а што хвалюе?**

– Хочацца пачаць ад зімоўкі. Прайшла яна ў нас нядрэнна. Хапала кармоў, яшчэ і з другімі фермамі дзяліліся. Параўнальна цёпла было ў памяшканнях. Звычайна, цікавячыся пра дойны статак, перш за ўсё цікавяцца пра надоі. Не скажу, каб яны былі ў нас надта высокія, бо і расцёлы ішлі, і зіма ж усё-такі – гэта не лета. Але, скажам, у мінулым годзе надаілі па 2400 кілаграмаў малака на кожную карову, што на 300 кілаграмаў больш папярэдняга года. Цяпер падлікі паказваюць, што канчатковы гадавы вынік па надоях будзе значна вышэйшым.

**– Што, скажыце, садзейнічае гэтаму? І колькі надойваеце ў дзень на карову цяпер, у пашавы перыяд?**

– Перш за ўсё, сёлета, у адрозненне ад мінулагодняга засушлівага года, паша ў нас значна лепшая. Да ўсяго, карыстаемся электрапастухамі, якіх у нас тры. Адзін з іх, „Імпульс", працуе нават на сонечных батарэях. Падабраны тры пастухі, з тым каб былі ў іх выхадныя дні. Сочым, каб скармліванне травы вялося строга па загонах, за дзень статак мяняе іх па некалькі разоў, што дазваляе хутка адрастаць травастою. Іншымі словамі, трава гэтым летам была сакавітай, дзякуючы чаму ад тых кароў, якія дояцца, атрымлівалі ў дзень па 10 і больш літраў малака. Задавальняе нас і яго тлустасць: яна стабільна на адзнацы 3,4–3,5 працэнта.

**– Ірына Міхайлаўна, усё тое, пра што Вы расказваеце, добра. Але дасягнутае – гэта плён працы вашых падначаленых. Што скажаце Вы пра калектыў сваёй фермы?**

– Пачну з таго, што ён за апошнія часы перацярпеў значныя змены. Пайшоў ад нас на заслужаны адпачынак Мікалай Канстанцінавіч Ананка, які з добрых паўтара дзесятка гадоў працаваў доярам. Пра гэтага чалавека і раней, і сёння хочацца гаварыць толькі добрае. Зараз калектыў даярак аднаўлены, ідзе, можна сказаць, працэс яго станаўлення. Таму я стрымліваюся назваць кагосьці канкрэтна як лепшага. Няхай яшчэ крышку папрацуюць дзяўчаты. Як, між іншым, і пастухі нашы, да якіх я не маю асаблівых прэтэнзій і спадзяюся, што з цягам часу яны зарэкамендуюць сябе з лепшага боку.

А вось працуе на ферме Сяргей Ляўчук, якім я задаволена вельмі. У хлопца залатыя рукі: і слесар ён у нас, і ваду на выпасы трактарам падвозіць, і пойла цялятам дастаўляе, і за спраўнасцю малакапровада сочыць. Як такога чалавека не пахваліць, скажыце?

**– Сапраўды прыемна, калі на ферме працуюць такія людзі. А цяпер, Ірына Міхайлаўна, колькі слоў пра сябе скажыце. Як прыйшлі Вы працаваць на ферму?**

– Перш за ўсё адзначу, што я – практык. Працавала лабаранткай, потым прапанавалі пасаду загадчыцы фермы. Калі што не ведаю ці не атрымліваецца, не саромеюся звярнуцца да нашага галоўнага заатэхніка Івана Мікалаевіча Бароўскага, і ён заўсёды дапамагае ці то парадай, ці нават нейкай канкрэтнай справай. Вось так і працую.

**– Што ж, застаецца тады пажадаць, каб поспех заўсёды спадарожнічаў Вам і вашым падначаленым, усяму калектыву фермы. Высокіх вам надояў і прывагаў на працягу ўсяго года.**

● СУВЯЗЬ: ЧЫТАЧ – ГАЗЕТА

# Помогли честные люди

Я давно уже не молод – мне 71 год. Партизанил в годы Великой Отечественной войны, потом был в отряде по борьбе з бандитизмом. Сегодня я – инвалид Великой Отечественной. Все знают, что удостоверение такое очень многое сегодня значит для участников войны.

И вот надо же было такому случиться – потерял я, будучи в Ивацевичах, свой кошелек. А там и удостоверение, и деньги. Не знал, что и делать. Думал, что обронил в автобусе, говорил водителям – найдете, возьмите деньги себе, верните только удостоверение.

И вот вечером приходит сосед, приносит вашу газету. А там объявление, что найден мой кошелек, и просят меня за ним приехать.

Приехал я, и все мне вернули – и деньги, и удостоверение. Сколько я не уговаривал этого человека взять деньги за такое хорошее дело, отказался. Тогда деньги те, что в кошельке были, я на церковь отдал.

Хочу сказать большое спасибо человеку, который нашел мой кошелек – предпринимателю **Николаю Петровичу Янушкевичу.** За честность его, за порядочность, за уважение к нам, ветеранам войны.

На сердце теплеет, когда знаешь, что есть добрые люди, в том числе среди предпринимателей. Люди честные, уважительные, понимающие наши стариковские трудности. Еще раз спасибо Николаю Петровичу, и дай ему Бог здоровья и успехов во всем.

**Алексей Григорьевич ЮНЧИК,**
**участник Великой Отечественной войны.**
**д. В. Гать.**

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

# Даярка Надзея Русак



*Больш 20-ці гадоў працуе ўжо даяркай Надзея Уладзіміраўна Русак. На Вялікагацкай ферме буйной рагатай жывёлы ведаюць жанчыну як майстра сваёй справы. І ў калгасе імя Калініна паважаюць яе за сумленныя адносіны да працы, адданасць нялёгкай справе даення кароў, якая, як вядома, патрабуе ад чалавека шмат фізічных намаганняў. Спраўляецца Надзея Русак са сваімі абавязкамі, неаднаразова лідзіравала ў спаборніцтве калгасных жывёлаводаў.*

*НА ЗДЫМКУ: даярка калгаса імя Калініна Н. У. Русак.*
***Фота А. КАНУННІКАВА.***

# Ці рэальнае сёння павышэнне мінімальнай зарплаты

Апошнім часам, як вядома, некаторыя палітычныя партыі, прафсаюзы настойліва патрабуюць ад Прэзідэнта, урада краіны павысіць мінімальную заработную плату да 150 тысяч рублёў і, адпаведна, стаўку першага разраду – да 170 тысяч рублёў. На нядаўняй нарадзе ў Кабінеце Міністраў, дзе разглядаліся праблемы запазычанасці па зарплаце, віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг у сваім выступленні разам з іншымі пытаннямі закрануў і гэта.

Ён паведаміў, што рост выпуску валавога прадукту ў гэтым годзе склаў 0,2 працэнта, а рост зарплаты – 2,7 працэнта. З пачатку года на працягу пяці месяцаў узровень росту заработнай платы быў вышэйшы за ўзровень росту цэн. Сяргей Лінг заявіў, што ўстанавіць патрабуемыя стаўкі мінімальнай зарплаты і адпаведна, першага разраду цяпер абсалютна немагчыма. Падлічана ўжо, што калі давесці мінімальную зарплату хоць бы да 130 тысяч рублёў, а першы разрад – да 150 тысяч рублёў, то для гэтага спатрэбіцца дадаткова 326 мільярдаў рублёў у месяц. Такіх магчымасцей у краіне сёння няма. Вядома, што існуючая запазычанасць па зарплаце ў рэспубліканскім бюджэце складае каля 1 трыльёна рублёў, каля 3 трыльёнаў налічваюць даўгі мясцовых бюджэтаў. На думку віцэ-прэм'ера, цяпер больш важна прыкласці максімум намаганняў для скарачэння і хутчэйшай ліквідацыі запазычанасці па выплаце зароблёнага.

***Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.***

## ПАДЗЯКА

*Паважаныя супрацоўнікі атрада ваенізаванай пажарнай службы г. Івацэвічы!*

*Прыміце нашу шчырую падзяку за дапамогу і выказаныя спачуванні ў сувязі з напаткаўшым нас горам – смерцю бацькі, свёкра, дзядулі.*

*Вялікае дзякуй вам, што падзялілі наш боль.*

***Сям'я КАРАНЕЎСКІХ.***

## ОБЪЯВЛЕНИЯ

● *Продаётся автомобиль ВАЗ-2101 1974 г. выпуска, пробег 125 тысяч км. Состояние нормальное, машина на ходу. Подробности по телефону 2-14-05.*

● *Продаётся капитальный гараж по ул. 60 лет Октября и покрытая первотелка. Обращаться по телефонам 2-12-33, 52-5-24 (желательно в вечернее время).*

● СЛУШАЙ, ПАРТИЯ!..

# БЫЛА БЕЗ РАДОСТИ ЛЮБОВЬ, РАЗЛУКА БУДЕТ БЕЗ ПЕЧАЛИ

**Василий НОВИКОВ, первый заместитель Председателя Верховного Совета Республики Беларусь, секретарь ЦК Партии коммунистов**

Со времен августа 1991 года белорусские коммунисты не имели такой широкой прессы. Национальное телевидение ежевечерне в информационной „Панараме" вещает о ПКБ. Президентские массовые издания взахлеб печатают заявления, обращения, ультиматумы из Могилёва, Молодечно, Крупок, других городов и районов под заголовками типа „Коммунисты устроили „импичмент"... Калякину". Даже наша родная газета „Товарищ" открыла „огонь по штабам". Рассерженные ветераны звонят в ЦК, во фракцию, лично мне и грозно требуют ответа, как это я посмел печататься в бэнэфовской „Свабодзе".

Из-за чего раздор?

Ветераны любят Президента Александра Григорьевича.

А пленум ЦК заявил о переходе Партии коммунистов в оппозицию главе государства, о невозможности поддержки проводимой им политики. А первый секретарь Калякин подписал воззвание семи различных партий в защиту Конституции, которую Лукашенко нарушил не раз. А секретарь Новиков разослал во все газеты, в том числе сугубо „вражеские", статью с четким прогнозом грядущей президентской диктатуры под названием „Против лома нет приема окромя другого лома".

Стало быть, они – ЦК, Калякин и Новиков – не любят Президента Александра Григорьевича.

На том, по видимости, и не сошлись.

По сути, разошлись вот на чем: как жить и действовать партия будет – по уму или по чувствам?

Партия коммунистов Беларуси – это атавизм или же она имеет будущее?

Припомню кое-что из новейшей истории ПКБ.

Конец мая 1993 года. Второй (объединительный) съезд. Выборы первого президента Беларуси. Тогда мне выпал крест идти, образно говоря, на амбразуру дзота. И как человек долга, чести и совести я пошел кандидатом в президенты от ПКБ. Без малейшей радости взвалил на себя очень тяжкую ношу. И мне не на что было опираться, кроме как на всепартийную поддержку.

И что тогда началось?..

Верхушка ветеранской организации республики преданно последовала за другим кандидатом, за Вячеславом Кебичем. На каждом шагу я чувствовал, что меня предали. Или, как в песне поется, была без радости любовь...

Большая же часть ветеранов хотя и не последовала за своими лидерами, всережимными верноподданными любой власти, зато узрела нового мессию – потянулась на свет восходящей звезды борца с коррупцией Лукашенко.

Вот так тогда и разбрелись в стороны – кто за начальником, кто за популистом. Безотказно сработали чинопочитание и эмоции. С тех пор я носил в себе свинцовый груз предвидения, что подобное у нас еще не раз повторится.

Конечно же, спустя время ко мне подходили старшие сотоварищи из числа отступников и каялись – ошиблись, мол, не обессудь, Василий Николаевич, в другой раз будем умнее.

Ладно, что было, то прошло, быльем поросло.

Наступила осень 1994 года. Развал Народного движения Беларуси. Я дал статью в тогдашней „Народной газете", в которой объяснил, почему необходимо как можно скорее развязаться с политическим авантюристом Гайдукевичем.

И опять возмутились ветераны... И опять все то же: лавина гневных писем, звонки среди ночи, призывы гнать из партии, обвинения в раскольничестве. Помните, как Наталья Машерова тогда швырялась в меня сковородками со страниц редактируемой ею „Новой народной газеты"? Впечатляющее, скажу вам, было зрелище. Думаю, у многих оно отложилось в памяти.

Чем закончился второй „раскол"?

Опять убедились, что никакой стратегической ошибки партия не совершила. После ее ухода из НДБ движение испарилось, как будто его и не было, а его вождь срочно перекрасился в жириновца. Вновь последовало мучительное прозрение. Вроде бы и во второй раз одумались, раскаялись, повинились.

Опыт 1994 и 1995 годов доказал, что эта болезнь, увы, неизлечима. Старшие наши товарищи просто в силу почтенного возраста не в состоянии поспевать за бурными событиями и адекватно реагировать на них. Было ясно как божий день, что и третьего кризиса такого рода не миновать.

Положение тем драматичнее, что лидеры ПКБ всегда на острие политической борьбы. Они обязаны все схватывать быстро и применять подчас молниеносные ходы. Эта тактика стала еще более актуальной с тех пор, когда в Верховном Совете сформировалась фракция ПКБ. Партия вошла в сферу реальной политики со всеми ее парадоксами, противоречиями и хитросплетениями.

И сложилось так: Новиков или Калякин шаг ступили – полтора месяца в первичках кипит дискуссия. А надо ли было, а туда ли, а не далеко ли шагнули? А не „предали" ли „вожди" в очередной раз честных рядовых коммунистов?

В пору идеологической смуты в обществе, в обстановке разгула плюрализма, в причудливых порождениях циничной демократии наши „деды" (так мы иногда, чуть фамильярно, но и любя, называли наших ветеранов) неизменно, увы, руководствовались „бдительностью" еще сталинского образца. Догматизм и абсолютное нежелание принимать как реальность новую действительность неизменно заводили наших записных критиканов в болото вечной путаницы, непреходящих заблуждений и постоянного раздражения.

Главной трагедией партии становилось то, что приходившие к нам молодые люди, разок побывав на ветеранских посиделках, где без конца кляли „горбатого" и перемывали косточки собственным ныне действующим секретарям, бежали от ПКБ, как черт от ладана.

Да, старики были наши... Даже просто по моральным, а не по политическим соображениям не могла партия их отторгнуть. Но они в массе своей тянули всех в непролазную трясину, гасили любой порыв к развитию, обновлению, а в сущности лишали ПКБ будущего. И рано или поздно должно было так или иначе разрешиться это назревшее противоречие.

Сейчас у нас на глазах оно как раз и разрешается.

Свершается третье „предательство".

Как секретарь ЦК я опять ощущаю этот столь знакомый мне полынный вкус отступничества, хотя до конца уверен, что и теперь мы пошли на правое дело. Это мое убеждение основывается на железной логике разворачивающихся событий, на ясном понимании политической ситуации и на знании объективных закономерностей общественного развития.

Так что же происходит с Партией коммунистов в Беларуси? Ветеранскую ее часть команда Президента науськивает на Новикова. Глубокую искреннюю привязанность старшего поколения к себе (а любовь, как известно, зла...), власть использует сугубо для укрепления ... власти. Разумеется, далеко не все наши ветераны загипнотизированы велеречивым оратором, но довольно значительная часть пожилых людей из ПКБ готова отхлынуть к кумиру и любимцу. А посему – так тому и быть.

Была без радости любовь, разлука будет без печали.

Самостоятельно мыслящие наши старшие товарищи прекрасно осознают, что в течение двух лет настойчиво и последовательно, от всей партии, от ЦК, от имени фракции и персонально секретари ЦК предлагали Александру Григорьевичу всемерное сотрудничество ради облегчения участи трудового народа. Это сотрудничество он категорически и неоднократно отвергал.

Кампания разворачивается под тем же горбачевским лозунгом: вы, мол, честные рядовые коммунисты, давите свое начальство снизу, а мы их сверху будем добивать. Раскольническая команда во главе с Сергеем Посоховым – штрейкбрехером и профессиональным политработником, помощником Александра Григорьевича, числящимся коммунистом в парторганизации столичных журналистов – повела это гнусное дело так рьяно и энергично, что оно, пожалуй, слишком рано, аж за два с половиной месяца до референдума, достигло своего апогея.

Впору уж Президента избирать по совместительству и генеральным секретарем той „коммунистической партии", которая при нем сейчас зарождается. Не знаю, как ее нарекут, но по сути она и будет прямой преемницей всего худшего, заскорузлого и омертвевшего, что имела КПСС-КПБ позднего периода.

Даю голову на отсечение, что организаторы „раскола" уже сейчас пребывают в некотором смятении. Что им сейчас делать с „новыми бывшими"? Ведь то, что они в качестве коммунистов Лукашенко и на дух не нужны, я знаю досконально. Тем более не нужны перед лицом Европы, потому что перед ней будущий диктатор изображает референдум так: я, мол, прогрессивный буржуазный реформатор, намерен ликвидировать Верховный Совет именно как остаток советской, коммунистической системы.

С другой стороны, и отталкивать льнущих доброхотов с крайне левого фланга рановато. Они еще не исполнили свою роль на референдуме. Это уж потом, когда они помогут Президенту обрести единовластие, он без тени смущения турнет от себя как можно дальше этих несчастных стариков.

Коммунисты, повторяю, не могли бросить стариков, прекрасно зная все их возрастные и мировоззренческие особенности. Но если они сами уходят от нас – держать не станем. И обратно, естественно, не ждем. Впредь на свой страх и риск им придется как-то устраиваться в наступающей буржуазной диктатуре. Подчеркиваю – буржуазной диктатуре! И никогда не сбудется голубая мечта седовласых заблуждающихся „отщепенцев" видеть Александра Григорьевича своим любимым генсеком...

Кстати, на эту должность могу порекомендовать все того же Посохова, который больше всех порадел о незамедлительном прибытии ударного отряда заслуженных ветеранов ПКБ под знамена Президента. Вот пусть теперь он ими и руководит. В качестве альтернативы могу предложить предпоследнего из бывших, первого секретаря ЦК КПБ Ефрема Соколова. И он не замедлил вынырнуть откуда-то из затишья своего мирного пенсионного бытия и выкрикнул „одобрямс" Александру Григорьевичу со страниц „Советской Белоруссии" и прочих официальных республиканских газет. Если эти оба не устраивают, то и я, и Калякин, и, надеюсь, в целом бюро ЦК, и весь Центральный комитет готовы помочь уходящим подобрать генсека, имеющего из всех нас самый богатый опыт работы именно с ветеранами партии.

Да их еще очень много сыщется в республике: вездесущих и всережимных, жаждущих быть обласканными и прирученными, легко прикармливаемых и по натуре прикормушечных – отборных первосортных партократов стандарта 70–90-х годов. Они готовы хоть сию минуту устроить грызню за право возглавить придворную „компанию" Александра Григорьевича.

В этом наметившемся альянсе будущего „монарха" и „всегда вчерашних" стоит отметить одну особенность. Коммунисты как таковые, по мировоззрению своему и позиции, нисколько не обманываются насчет „коммунистичности" первого белорусского Президента. Потому-то по первому его зову в его объятия бросились именно классические „бывшие". И это, скажу я вам, крайне симптоматично. Короля, как известно, делает свита, а такое окружение живо возрождает в памяти немеркнущий образ политрука погранзаставы Александра Лукашенко.

Похоже, однако, что перестарались и порученец Посохов, и закулисные режиссеры „раскола" ПКБ. Новая волна старых приверженцев сильной руки на всех углах клянется „отцу нации" в любви и верности, но Александру Григорьевичу это как-то не особенно в радость. Лишь разок в Гродно, кажется, он выразил коммунистам-ветеранам благодарность за поддержку.

В затеваемом референдуме-96 Александр Лукашенко делает ставку на старшее поколение. Отсюда и дата его проведения – 7 ноября. Как можно напутствовать тех ветеранов, которые решили идти голосовать?

Великая Октябрьская социалистическая революция установила народную Советскую власть. В Беларуси у всех на виду ее уничтожает именно Лукашенко. Он разгоняет Советы, практически ликвидирует представительную власть на местах и готов уничтожить единственную, законодательную в лице парламента. Если тоскующие по социализму ветераны поддержат Президента на референдуме, то, значит, потом в День Конституции 7 ноября всегда заодно будут праздновать и разгром Советской власти – той самой, за которую они же проливали священную кровь на фронтах Великой Отечественной.

Не могу не высказать и самое, пожалуй, тягостное в адрес седого воинства. Старшее поколение в целом все готово отдать Александру Григорьевичу, причем не только без памяти его любя, но и с выгодой для себя. Он уже „подарил" пенсионерам бесплатный проезд в электричках на сентябрь–октябрь, за счет, правда, местных нищенских бюджетов городов и районов республики. Самым убогим старикам пообещал единовременное пособие, без малого 40 миллиардов на всех.

Он откровенно покупает позарез нужные ему 2 миллиона ветеранских голосов. А ветераны и пенсионеры готовы поступиться самыми высокими принципами за крохи с барского стола. Обидно слушать о том, что покупается даже героическое поколение? Ну что тут поделаешь, это тоже факт новейшей истории.

В Росии большинство ветеранов на выборах Президента в июле 1996 года проголосовало за Ельцина. Они все променяли на предвыборные денежные подачки „царя Бориса".

Это уникальное явление убедило меня в том, что старшее поколение тоже наконец вошло в рынок, приняло его мораль и нравы. Тогда тем более на этом повороте нам пора прощаться.

Не знаю, что тут у нас в Беларуси получится, возникнут ли „монархическая компартия", „большевики-жириновцы" или „социалисты-рыночники". Ничего страшного, в той же России шесть левых партий разной окраски, вплоть до самого алого цвета. А Партия коммунистов Беларуси как есть, так и будет.

ПКБ позиции не меняет – это ветераны переметнулись на другой фронт.

Расставание со своеобразными „ортодоксами-перевёртышами" своевременно еще и потому, что впереди у коммунистов тяжелый период работы в условиях буржуазного государства. Партии предстоит осваивать непривычные для нее формы существования. Так что тем более важно сохранить не количество вечно колеблющихся членов ПКБ, а ее жизнеспособную, мобильную, маневренную часть.

Ну и, разумеется, назначать свои съезды, вырабатывать стратегию и тактику она, как и прежде, будет сама, а не по указке ветеранских политических клубов.

Мы с огромным облегчением навсегда делегируем Александру Григорьевичу тех членов ПКБ, которые в святой своей простоте верят, что только Лукашенко возродит руководящую и направляющую КПСС и уничтожит всех „врагов народа".

С радостью передаем ему все это „богатое" приданое.

Оно хоть и не свадьба, но очень хочется напоследок от всей души пожелать соединяющимся – совет вам да любовь.

**„Народная газета" за 4 сентября с. г.**

